З гэтага скарысталі і карыстаюць дагэтуль розныя палітычныя афэрысты тыпу Аляксюкоў, Дубяйкоўскіх і т. п. У буржуазнай Польшчы яны ўбачылі забясьпечаньне сваей будучыны і, як некалі выяўлялі „вернаподданныя пачуцьці“ імпэратару Вільгэльму, так цяпер пачалі выяўляць іх пану Пілсудскаму. Баючыся нацыянальнага і соцыяльнага радыкалізму беларускае народнае масы, такія элемэнты сябраваліся з польскай дэфэнзывай і так-званымі „другімі аддзеламі“. А каб мець спогад польскае буржуазіі, яны выступалі ад імя беларускае буржуазіі.

Ведама, такія „прадстаўнікі“ не маглі выявіць твару беларускае буржуазіі, не маглі паказаць запраўдных імкненьняў апошняе, — імкненьняў, якія шмат у чым могуць і ня зусім згаджацца з імкненьнямі польскае буржуазіі. І мы так і ня можам нічога сказаць, куды йдзе і чаго жада е беларускае буржуазнае грамадзянства.

У апошнія часы кулацка-эндэцкая соймавая большасьць пачала завіхацца каля беларусаў, стараючыся вылавіць спасярод пасольскага клюбу беларускія буржуазныя элемэнты. У газэты нават была пушчана „качка“ аб тым, быццам тое, чаго так крэпка жадае „пяст“ і „хіена“, ужо сталася: быццам у беларускім пасольскім клюбе зрабіўся развал. Ды гэта ня спраўдзілася. Тады пан Вітос загадаў шукаць беларускіх буржуяў за межамі клюбу. Пасуліў і грошы на падмогу дзеля іх арганізацыі.

Бязумоўна, выкрысталізаваньне буржуазных беларускіх элемэнтаў—зьявішча дужа цікавае і важнае з таго пагляду, што з сялянска-работніцкага беларускага руху выйдуць усе тыя, каму не па дарозе ісьці з працоўнымі масамі. Аднак, калі на чале аб'яднаньня беларускае буржуазіі стануць ізноў элемэнты, якія займаюцца палітыкай выключна дзеля набіваньня сваей кішані польскімі маркамі, калі яго павядуць Аляксюкі і Дубяйкоўскія, дык на такое аб'яднаньне, пэўне-ж, ня пойдзе ніводзін буржуй, які пачувае сябе парадачным чалавекам. І ізноў будзем мець нейкі „эрзац“, дзякуючы катораму лепшыя элемэнты спасярод беларускае буржуазіі, не знайшоўшы для сябе прыпынку ў адпаведнай іх ідэалёгіі арганізацыі, прымушаны будуць прычэпліванца і далей да магутнага народнага руху, ўносячы ў яго зусім нязгодныя з істотай гэтага руху зачаткі.

**К. Фалькевіч.**

# Слова аб мясцовай прэсе.

Землі, якія пабеларуску называюцца Заходняй Беларусяй, а папанску—польску Kresy Wschodnie, апрача таго, што эканамічна заняпаўшыя і палітычна прыгнечаны, але ўдабавак яшчэ сыстэматычна атручаваюцца польскай клерыкальна-шовіністычнай прэсай, бо іншага напрамку прэса калі і дыхае дзе ў Польшчы, дык не даходзіць да нашай сялянскай гушчы.

Агідная, з садыстычнымі ноткамі, кляўзная газэта „Dzieńnik Wileński“, паўнейшая гэтымі заслугамі, але больш вытрыманая „Rzeczpospolita“, панская падліза бульварная газэтка „Виленское Утро“ і дзесяткі, сотні ім падобных распаўзаюцца, як плюгаўствы, сілком залазяць у сялянскія хаты і робяць сваю шкодную, разрушаючую працу. Кожны радок гэтых газэт пышыць ненавісьцяй да ўсяго, што няпольскае і праступнай агітацыяй за правы старашляхоцкага панаваньня, за падняволеньне працоўных. Гэта можна было-б пацьвярдзіць прыкладамі з першага папаўшага нумару гэтых газэт, але хто з нас беларусаў не адчуў іх прыкрага для нас існаваньня. Хто ня знае, што яны памагаюць трымаць беларускі народ у заняпадзе, дабіваюць недабітую процьмай пакутных вякоў душу нашай працоўнай нацыі, топчуць расткі маладой культуры.

Друкованае слова ў сучасным жыцьці адыгрывае вялікую ролю, мае вялікую моц і з тэй прэсай, якая нам у вочавідкі прыносіць урону, мы павінны змагацца, як з дужым ворагам. Усе памянёныя газэты ёсьць панскія газэты і адтрымліваюць вялікія грашовыя субсыдыі, на іх баку адміністрацыя і ўрад. А мы матар'яльна бедны, бясправўныя і дзеля таго ў барацьбе мусім трымацца гуртам, аднадумна. Бяда нас павінна аб'яднаць, а як станем сьвядомай грамадой, дык будзем рабіць тое, што мы захочам, а ня тое, што вораг нам кажа. А бяда ў нас вялікая і да бяды гэтай належыць і пытаньне аб мясцовай прэсе.

Пашырэньне ў нас больш паступовай нават польскай прэсы лічыцца антыдзяржаўнай працай. Яшчэ ў 1920 годзе мне выпадкова давялося надзяляць таго-другога ў Дзісеншчыне „Robotnik'ам“ „Litw'ой“ і ім падоб., якія я адтрымліваў. Гэта зьвярнула ўвагу мясцовай паліцыі, якая дала мне зразумець, што я гуляю з агнём. Што-ж тады казаць аб беларускіх газэтах, якія я бязумоўна пашыраў-бы, ня гледзячы ні на якія страхі і пагрозы, толькі, нажаль, яны да мяне зусім не даходзілі.

У гор. Вялейцы ёсьць прадавец газэт; вялікае запатрэбаваньне беларускага друку заахвоціла яго выпісаць беларускія газэты для прадажы, але з першага нумару, дзякуючы рэпрэсыім з боку адміністрацыі, змушаны быў адмовіцца ад ходкага тавару.

Цікава прасьлядзіць тую цярністую вузенькую дарожку, па якой ідзе беларуская газэта.

У час набору номера ў друкарню любяць заходзіць урадоўцы і паліцэйскія, правяраюць кнігу заказаў, праглядаюць карэктуру. а было і так, што папераджалі друкара, што ён займаецца „бруднымі“ справамі, якімі—гэта ён мусіў сам здагадацца, але друкар ніяк не дагадаваўся і яму было „запрапанавана“ зрабіць рэмонт друкарні. Дзеля таго, што друкарня была як і ўсе іншыя друкарні і не патрэбавала ніякага рэмонту, дык уласьнік яе запротэставаў. У адказ на гэта праца ў друкарні была спынена. Тут друкар ужо „здагадаўся“ і пасьпяшыў расплутацца з клопатам—беларускай газэтай і друкарня зноў прыступіла да працы. Пасьля доўгіх шуканьняў урэшце ўдаецца ўгаварыць аднаго з напужаных друкароў і нумар выходзіць, але вышаўшы мусіць у друкарні пралежаць з поўдня, бо ёсьць загад друкару пасылаць да прасовага рэфэрэнта толькі а 8 гадз. раніцы. Паслаўшы, чакаем кожную мінуту канфіскаты. Праходзе дзень—ціха. А што калі зрызыкаваць ды адправіць газэту на пошту, а можа і пашанцуе. Сфальцаваны номер адносіцца на пошту. Гура, значыць, наша ўзяло—нумар пайшоў і з задаваленьнем прадстаўляеш сабе радаснага падпісчыка, які прагавіта глытае кожнае друкованае слова. Праходзе колькі дзён, так-сяк наскрабеш грошы і зноў такім парадкам адсылаецца і другі нумар і раптам—гвалту! На пошце ляжыць яшчэ папярэдні нумар. Чаму? Чакаюць дазволу. Калі прыйдзе гэты дазвол і ці прыходзе ён калі—гэта для нас ужо няведама.

Прадставім сябе, што якісь номер-шчасьлівец праб'ецца на правінцію, дык мы добра ведаем, якія там яго новыя загады чакаюць і якія ён там пякельныя мукі перажывець, аж пакуль дойдзе да рук падпісчыка. Бывала так, што намеры даходзілі з выразанымі шпальтамі, а бывала і так, што гэтыя працоўныя рукі падпісчыка, шануючы свае пяты ад паліцэйскіх удараў, баяліся прынімаць дакульгаўшы да іх номер-мучанік.

Мы бачым, што ўсё робіцца, каб наша родная газэта была выціснута, задушана шкоднай для нас прэсай, каб прэсу гэтую чыталі тыя, каго яна хоча падняволіць, каму атуманівае галаву панскай дабрадзейнасьцяй, асьляпляець вочы шовіністычным пылам, калечыць душы клерыкальным шалам.

Беларускі народ сваім інстынктам адчуў хворасьць сучаснай польскай ды яшчэ „крэсовай“ школы і не пасылае туды сваіх дзяцей, а дамагаецца роднай школы.

Беларускі народ не захацеў даручаць свайго лёсу панскім прыблудам і выбраў сваіх паслоў у Польскія Палаты.

Беларускі народ умее дастойна выказаваць сваю волю і на гэты раз павінен пачуць зьмяінае сыканьне панскіх газэт і рашуча іх адкінуць ад сябе, ня чытаць і змагацца з імі. А найлепшым змаганьнем з імі ёсьць выпісаваньне і чытаньне сваіх родных сапраудна беларускіх газэт. І ня толькі чытаць і матар'яльна падтрымліваць, але пашыраць яе, прымаць дзейнае ўчасьце ў яе працы, праводзіць у жыцьце яе думкі, пляны, быць яе супрацоўнікам.

Газэта ў сучасным нашым становішчы ёсьць най важнейшы нэрв нашага жыцьця.

Дзе нам падзяліцца думкамі і выпрацаваць плян ходу нашага адраджэнскага руху; дзе разгледзіць спосабы клясавай барацьбы; дзе высьветліць тыя нязьлічаныя крыўды і прычыны нашай немачнасьці; дзе дачуемся праўдзівага асьвятленьня палітычных падзей сьвету; хто раставіць вехі да лепшай будучыны, ў якой „будзе ўнукам панаваньне там, дзе сягоньня плача дзед“; хто ўсьцешыць, сагрэе збалелыя нашыя душы, зазіхаціць клічамі-маланкамі, ашпарыць полымем барацьбы трупехлых нехайнікаў—толькі беларуская газэта, якая стаіць у абароне інтарэсаў працоўных. Тут кожны беларус знайдзе задавальняючы адказ на ўсе трывожачыя яго пытаньні.

Кожны Беларус павінен чытаць і падтрымоваваць сваю газэту. Беларусаў каля трох мільёнаў у Польшчы, дык зробім мы трохмільённы саюз падпісчыкаў і зажывём аднэй думкай, аднэй надзеяй, аб'яднаемся ў адным змаганьні, станем сапраўды клясова і нацыянальна сьвядомымі, дык кожны працоўны будзе нас паважаць, а ворагі баяцца.

**Ж.**

# Палітычныя падзеі.

### Перад агульнай небясьпекай.

Грозная нота ангельскага ўраду, рэзка крытыкуючая становішча Францыі і Бэльгіі ў справе окупацыі Рура і нават пагражаючая выхадам з Антанты; каоліцыйны кабінэт Штрэзэмана ў Нямеччыне, які ў сваей загранічнай палітыцы імкнецца да выпаўненьня немцамі прынятых на сябе па Вэрсальскаму трактату абавязкаў у імя „міжнароднай солідарнасьці“ (буржуазіі?); далёка ня так ваяўнічы, скарэй пакорны, адказ Пуанкарэ на ангельскую ноту, ў якім ён стараецца абяліць дасюлешнюю францускую палітыку, — вось найважнейшыя выпадкі сучасных міжнародных адносінаў эўропэйскага жыцьця.

Ня гледзячы на поўную процілежнасьць інтарэсаў гэтых груп эўропэйскай буржуазіі, мы бачым у гэтых праявах пэўнае імкненьне да ўлагоджаньня вострага конфлікту, да уладжаньня нейкім компромісам свае „дамашняе“ спрэчкі, перад абліччам новай сілы, аднолькава варожай усім ім, пагражаючай самому іх істнаваньню, для змаганьня з якой і патрэбна аб'яднаньне ў імя *„міжнароднай солідарнасьці буржуазіі“ і „культурнай супольнасьці народаў Эўропы“, абапёртай на капіталістычнай сыстэме гаспадараваньня.*

Гэтай новай сілай, гэтым агульным ворагам буржуазіі, як антанцкай, так і нямецкай, зьяўляецца нямецкі пролетарыят, які рашуча загаварыў і выступіў на вуліцу ў час, калі адносіны паміж пасварыўшыміся групамі буржуазіі дайшлі да найбольшага напружаньня, а Нямеччына аднэй нагою ступіла ў пропасьць эканамічнага банкруцтва.

Для ўсіх ясна, што кабінэт Куно вышаў у адстаўку пад націскам працоўных і калі пролетарыят у той час ня ўзяў яшчэ ўлады ў свае рукі, дык ніхто ня можа цьвярдзіць, што буржуазія ўжо пазбавілася аканчальна гэтай небясьпекі і зноў спакойна можа заняцца сваім торгам, каму і колькі і якім способам трэба больш выціснуць з працоўнага народу Нямеччыны мільярдаў залатых марак.

Зразумеў гэта ангельскі ўрад і грозна прыпомніў сваім францускім калегам небясьпечныя вынікі іх палітыкі. Зразумеў гэта і францускі ўрад: тон францускай ноты ў справе окупацыі Рура больш уступчывы, чым ува ўсіх папярэдніх заявах францускага ўраду. Праўда, Францыя і надалей дамагаецца спыненьня пасыўнага спраціву, як варунку распачацьця перагавораў з Нямеччынай, і што эвакуацыя Рура будзе адбывацца паступова ў меру нямецкіх сплатаў, але пры гэтым падкрэсьліваецца, што окупацыя ня мае захватных мэтаў і што пасьля спыненьня спраціву варункі окупацыі будуць „зусім іншыя ад сучасных“.

Добра зразумела гэта і нямецкая буржуазія і відаць, што новы ўрад Штрэзэмана мае замер вясьці зусім іншую загранічную палітыку, чымся ўрад Куно. Буржуазія зразумела, што лепш пайсьці на ўзаемныя ўступкі і ўтварыць адзіны фронт перад супольнай небясьпекай. Францыя, Бэльгія і Англія згодзяцца адтрымаць меншую суму мільярдаў, чым спадзяваліся зараз-жа пасьля Вэрсальскага міру; нямецкія капіталісты з ахвотай згодзяцца заплаціць, каб толькі ўмацаваць сваю ўладу, тым больш, што плаціць будуць не з свае кішані, а ўвесь цяжар гэтых мільярдаў ляжа на плечы працоўных масаў.

Буржуазія ніколі не застановіцца перад тым, каб кінуць мільёны ў крывавую бойню, калі ў гэтым яна бачыць карысьць для сябе, хоча пазбавіцца небясьпечнага канкурэнта ў асобе буржуазіі іншай дзяржавы, але, ў выпадку агульнай небясьпекі з боку пролетарыяту, варожыя групы буржуазіі заўсёды знойдуць пункт паразуменьня, адкладаюць „сямейныя“ спрэчкі да больш адпаведнага моманту і солідарным адзіным фронтам выступаюць проціў агульнага ворага.

Працоўныя не павінны забываць, што міжнароднай солідарнасьці буржуазіі, трэба проціставіць міжнародную солідарнасьць працоўных усяго сьвету. У гэтым залог перамогі.

**Яз.**



### НЯМЕЧЧЫНА.

Канцлер Штрэзэман на сьнеданьні, выданым зьездам прадстаўнікоў нямецкай прамысловасьці і гандлю сказаў палітычную прамову, ў якой заявіў, што сучасны нямецкі ўрад адстоіваць будзе, зробленыя раней Нямеччынай прапазыцыі. Штрэзэман лічыць, што окупацыя Надрэніі і Руры, ня можа прычыніцца да скарэйшага выпаўненьня праз Нямеччыну ўзятых на сябе абавязкаў. Але ня гледзячы на ўсё, Штрэзэман спадзяецца, што шляхам паразуменьня паміж саюзьніцамі і Нямеччынай дайдзе да разьвязаньня справы рэпарацыяў. У канцы прамовы канцлер падкрэсьліў патрэбнасьць утрыманьня міжнароднай солідарнасьці і культурнай супольнасьці народаў Эўропы.

---

У Бэрліне афіцыяльна зазначаецца ўзрост безрабоцьця. У апошнім тыдні запісалася 67.274 безработных. Шмат прыватных гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў зачынена. Выдаўцы газэт і ўласьніці друкарняў пастанавілі адмовіць у працы тэхнічнаму пэрсоналю ўва ўсіх друкарнях.

---

У Дюсэльдорфе ўласьнікі капальняў не згадзіліся на дамаганьні работнікаў павялічыць плату, дзеля чаго

забастоўка зноў распачалася. Каля 200.000 работнікаў звольнена.

## АНГЛІЯ.

Ангельскі ўрад разглядае апошнюю французкую ноту. Пасьля адбудзецца паседжаньне рады міністраў, на якім будзе вырашана ці шляхам франка-ангельскай конфэрэнцыі можна будзе дайсьці да згоды паміж саюзьнікамі ў справе рэпарацыяў.

Парыскія і лёнданскія газэты спадзяюцца добрых вынікаў пры спатканьні ангельскага і французкага прэм'ераў, беспасрэдныя перагаворы якіх пазволяць на высьвеньне і абгаварэньне шмат якіх пунктаў з большай свабодай, чым гэта магчыма пры звычайным абмене нотамі.

## БЭЛЬГІЯ.

Газэты паведамляюць, што бэльгійскі адказ на ангельскую ноту перад усім полемізуе з аргумэнтамі лёрда Кэрзона ў справе пяршынства Бэльгіі і падзелу, устаноуленага ў Спа. Бэльгійская нота даказвае, што Англія адтрымала ад Нямеччыны ня менш. чым Бэльгія. У справе законнасьці окупацыі Руры Бэльгія падзяляе французкі пункт гледжаньня. У канцы нота прапануе рэпарацыйны плян, які мог-бы служыць за падставу міжсаюзных перагавораў,

## ФІНЛЯНДЫЯ.

У Гэльсінфорскай прэсэ йдзе вострая спрэчка, выклікаhая весткай, што на Рыскай конфэрэнцыі міністар загранічных справаў п. Вэннола, узяў на сябе абавязак падтрымліваць польскага кандыдата да Лігі Нацыяў. Асабліва швэдзкія часопісі нападаюць на Вэннолу за „дэмонстрацыйнае далучэньне да французкай орыентацыі ў час, калі ўвесь сьвет адварочваецца ад Францыі" і радзяць Фінляндзкаму ўраду паправіць памылку, лічучы, што шансы прайсьці да Рады Лігі мае толькі Бэнэш.

## Нота Радавых Рэспублік.

Прадстайнік Радавых Рэспублік у Варшаве Оболенскі, уручыў міністру загранічных спраў п. Сэйдзе ноту протэсту проціў зьдзеку пад грамадзянамі Радовых Рэспублік, якія знаходзяцца у польскіх вастрогах. Нота указвае на факт, які мсў месца з палітычным праступнікам Бандурчукам, які памёр. Да ноты далучаны сьпісак 317 асоб, якіх польскі ўрад, быццам, згодзіўся вымяняць на палякоў, арыштаваных у Радавых Рэспубліках.

## Арышт мітрапаліта Шэптыцкага.

На ст. Дзедзіцы арыштованы ўкраінскі уніяцкі мітрапаліт Шэптыцкі, які ехаў да Львова з Рыму. Хворы мітрапаліт адмовіўся пакінуць вагон, тады паліцыя, высадзіўшы з вагону ўсіх пасажыраў, адчапіла вагон мітрапаліта і пастаѣіла на запасны шлях, дзе ён і пільнуецца паліцэйскімі пастарункамі.

Як вядома, мітрапаліт Шэптыцкі стаяў за утварэньне незалежнай Украінскай дзяржавы. Польскі ўрад забараніў мітрапаліту ўезд у Польшчу. Але мітрапаліт Шэптыцкі, як грамадзянін Польшчы, згодна з польскімі законамі, якія не прадбачаць выгнаньня непажаданых грамадзян, лічыў, што ён праўна можа прыехаць і працаваць сярод свайго народу, вынікам чаго і зьявіўся арышт.

Цікава, як будзе рэагаваць на гэта Рымскі Папа?...

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ХРОНІКА.

**Канфіскаваньне № 1 „Вольнага Сьцягу"**. Па загаду Камісарэ Ураду гор. Вільні сканфіскавана № 1 „Вольнага Сьцягу" на другі дзень выхаду за артыкул „Дзесяць запаведзяў". Артыкул гэты быў друкаваны у польскай часопісі „Nowa Kultura" № 4, якая выходзіць у Варшаве, аднак часопісь гэтая ня была канфіскавана. Пытаем пана камісара ці для беларускай прэсы ёсьць асаблівыя „przepisy prasowe" і калі ёсьць, дык чаму не апублікованы, каб мы маглі да іх дапасавацца. Бачучы у гэтым прасьледаваньне беларускае прэсы лічым патрэбным перадаць усю гэту справу ў Беларускі Пасольскі Клюб.

**Яшчэ аб вобысках сярод беларусаў.** У ноч з 24 на 25 жніўня паліцыя была ў гэткіх беларускіх установах: Беларускай Школьнай Радзе, Сэкрэтарыяце Беларускага Пасольскага Клюбу, Беларускім Грамадзянскім Сабраньні, Беларускай Гімназіі, Беларускай Кнігарні, Вучнёўскім інтэрнаце Беларускай Гімназіі і прыватных памешканьнях: Старшыні Беларускага Пасольскага Клюбу Б. Тарашкевіча, пасла С. Рак-Міхайлоўскага, рэдактара „Вольнага Сьцягу" Я. Лагіновіча, пісьменьніка Л. Родзевіча, інспэктара Беларускай Гімназіі М. Красінскага, вучыцелёў Беларускай Гімназіі А. Грыневіча і Лукашэвіча, загадчыка Беларускай Кнігарні С. Станкевіча і ў іншых.

Усюды шукалі Чарвякова і П. Бадунову. Апошняя, як мы паведамлялі ў № 1 „В. С." адтрымала ад польскай улады загранічны пашпарт і больш тыдня таму выехала заграніцу.

**Рэдактар зачынянай часпісі „Новае Жыцьцё"** Язэп Лагіновіч адтрымаў акт абвінавачаньня па 154 ст. к. к. за тое, што ў № 4 газэты „Новае Жыцьце" зьмесьціў артыкул „Што такое „Wyzwolenie з беларускага пункту гледжаньня", у якім пракуратура дагледзела непашану польскай улады.

**Арышт беларускага мастака і пісьменьніка Яз. Драздовіча.** Вечарам 24-га жніўня мастак Я. Драздовіч, праходзючы вуліцай, зацікавіўся стылем Дамініканскага касьцёлу. Гэта выдалася падазрэнным для паліцыі і гр. Драздовіч быў арыштаваны. На другі дзень, 25-га жніўня, пасьля напісаньня пратаколу, гр. Драздовіч быў звольнены.

**Зборнік вершаў К. Сваяка.** Паэт Казімір Сваяк прыслаў у Віленскае Выдавецкае Таварыства зборнік сваіх вершаў для выданьня.

# Весткі з вёскі.

**м. Новая Мыш**, Баранавіцкага павету.

У нядзелю 19-га жніўня г. г., на праваслаўнага Спаса, адбыўся ў Новай Мышы мітынг, на якім выступалі Сэнатар А. Назарэўскі і пасол Сойму М. Кахановіч, Сэнатар А. Назарэўскі прызываў усіх беларусаў да аб'еднаньня навокала свайго нацыянальнага сьцягу і не разбівацца на паасобныя группы, асабліва ў такія моманты, як выбары ў Сойм, або ў іншыя якія выбарныя ўстановы. Дзякуючы таму, што на выбарах у Сойм некаторая частка беларусаў аддала свае галасы за „Вызваленьне" і іншыя польскія партыі, ў Сойме і Сэнаце заседае менш беларусаў, як магло-б іх там быць. Галасаваньне беларусаў за небеларускія, а польскія партыі трэба лічыць абмылкай, вынікшай з несьвядомасьці ў той час нашага грамадзянства, паверыўшага дэмагагічным лёзунгам, з якімі выступалі на выбарах некаторыя польскія партыі, прадстаўнікі якіх цяпер у Сойме і Сэнаце галасуюць ня згодна з сваімі папярэднімі абяцанкамі. Пасол М. Кахановіч, далучыўшыся да вывадаў папярэдняга аратара, зьвярнуў увагу прысутных на некаторыя рэчы, аб якіх ніколі ня трэба згбываць,—гэта: 1) аб школах, 2) аб гмінах, павятовых і ваяводзкіх самаўрадах, 3) аб зямлі, 4) аб палажэньні рэлігійных спраў у Польшчы і 5) аб патрэбе аўтаноміі для Беларусі.

Аратар прызываў прысутных, каб яны на сваіх сходах па вёсках складалі прыгаворы аб адчыненьні беларускіх школ і падавалі іх у гміны і школьнаму інспэктару. Што датычыць самаўрадаў, то трэба памятаваць, што цяперашнія, так званыя, самаўрады—гэта ня тое, што павінна быць, бо там сядзяць людзі нікім ня выбраныя, або выбраныя па прыказу начальства і што трэба дабівацца, каб у самаўрадах былі людзі, якіх захоча выбраць сам народ.

Па зямельнаму пытаньню для нашага народу нічога ня робіцца. Прысылаюць асаднікаў, даюць ім зямлю і лес для адбудовы, а нашаму селяніну няма ні зямлі, ні лесу. Відаць, што і ня будзе, так як уся ўлада ў Польшчы цяпер у руках паноў і прадаўшыхся ім кулакоў „пястоўцаў".

Палажэньне праваслаўных, як іншых не каталіцкай рэлігіі грамадзян Польшчы, зусім дрэннае. Гэта—людзі другога і трэцяга сорту. Іх амаль зусім нікуды не прымаюць на службу і лічуць ворагамі Польшчы. У той самы час падаткі з іх зьбіраюць як з усіх, у войска таксама бяруць, школ, якіх хочуць беларусы і іншыя нацыянальнасьці, не даюць,—мала таго — адбіраюць царквы, зачыняюць праваслаўныя парафіі і г. д.

З прычыны ўсяго вышэйсказанае аратар прышоў да вываду, што трудна спадзявацца на лепшае, пакуль ёсьць сучасны стан рэчаў, бо беларусаў і іншых так званых меншасьцяў у Польскім Сойме замала для таго, каб пры галасаваньні перавага галасоў была-б на іх старане.

*Треба дабівацца аўтаноміі беларускіх зямель у Польшчы, г. е., каб беларусы мелі свой уласны Сойм, асобны ад Варшаўскага.* Тады яны змогуць вырашаць свае справы так, як ім патрэбна.

На гэтым скончыўся мітынг пры гучных воплесках сабранай масы народу.

Пасьля мітынга паліцэйскія хадзілі і дапрашвалі людзей, аб чым гаварылі на мітынгу і дамагаліся, каб тыя падпісалі пратакол, у якім, відаць, рапартавалі да начальства аб „нашых ворагах". Такія словы сказаў адзін паліцэйскі перад пачаткам мітынгу, зьвяртаючыся да аднаго з мыскіх абываталяў: „хадзем, кажа, паслухаем, што будуць казаць нашыя ворагі!"

Калі такі „пратакольны" настрой быў у паліцэйскага яшчэ да мітынгу, то можна сабе прадставіць, што ён потым „напратаколіў".

**С. А.**

**Вёска Порплішча**, Дунілаўскага п.

У нашай вёсцы ёсьць старэнькая царква. Мясцовы „бацюшка" ўздумаў яе паправіць і ведама на сялянскія грошы. Быў ужо наняты і майстар, які дагаварыўся працаваць толькі за збожжа.

Пачаўся збор ахвяр збожжам сярод сялян; збор ішоў дужа туга—ніхто не дае. „Бацюшка" пачаў крыўдзіцца на народ, што ён не выпаўняе сваіх абавязкаў, што адрокся ад царквы, непрызнае Бога і іншае. Хто-ж яго ведае, можа народ ужо да таго дарос, што ў словах „бацюшка" і хаваецца праўда, але з боку гледзячы на гэтую справу, дык відаць што сяляне не даюць, бо не давяраюць свайму „бацюшку"—цераз меру ён ужо заядлы маскалюга і ня любіць нічога нашага беларускага. Час ужо пахаўтурыць надзею на цара.

**Т—к.**

**З Дзісеншчыны.**

У нашым павеце ёсьць невялічкае мястэчка Празарокі. Жылося ў нас несамавіта, вось так з кута ў кут і вечар тут. Але ў апошнія часы зьвіў тут сабе лагво адрокшыся свайго роду-племені, здраднік беларускага народу „модны шляхцюк" Л. Прыехаў ён у Празарокі ў 1920 г. з Віцебшчыны, разам з палякамі, якія ўцякалі з-пад Полацку; а назад ужо не вярнуўся, бо мусіць аставіў пасьля сябе добрую памятку. Спачатку ягомасьць гэты прыкінуўся беларусам, але пасьля пабачыў, што быць беларусам у нашыя часы, дык трэба стаць мучанікам ды яму і не карысна, бо ніхто за гэта ня плаціць. Вось ён і стаў крывіць душой і ў час выбараў запісаўся ў № 12 і стаў польскага пана папіхачом, а ўдабавак запісаўся ў тайную паліцыю. Вось тут і пачалося ў нас ліха. Пасыпаліся даносы, пачаліся масавыя арышты. Арыштовавалі бяз усялякай віны тых, хто галасаваў за № 16. Гэты шляхцюк працаваў у той час да поту — стараўся выслужыцца; нават, прыехаўшае на сьледзтва, нейкае вялікае начальства вызывала яго ажно на станцыю, дзе заклікалі ў вагон ма' быць на нараду, бо ў той час было ўжо арыштованых 64 асобы, якія два дні сядзелі ў адным таварным вагоне.

Праўда, арыштованых выпусьцілі, але чаму гэты брахлівы даказчык ходзе на свободзе, дык нам няўцямкі. Ненавідзяць яго цяпер і абыходзяць, як шалёнага зьвера. Прыйдзецца яму калісьці расплачавацца перад народам за свае праступкі.

Тут трэба зазначыць, што бадай у кожным прыгранічным мястэчку засеў такі беглы шляцюра, які робіць сваё шкоднае дзела.

**Адвеку сьпячы.**

**М. Празарокі.**

Было ў нас заўсёды бяды хоць адбаўляй, але вось правялі, як кажуць, пад бокам граніцу, дык цяпер жыцьця няма. Хто-б падумаў, што раскладаць вогнішча на начлезе ёсьць праступнасьць. А ў нас выходзе так. Адзін селянін быў за гэта арыштованы і прасядзеў заніщто дзьве пары (2 сутак). Абвінавачавалі яго за тое, што ён быццам даваў знак бальшавіком, раскладаючы вогнішча.

**—скі.**

# Паведамленьне.

Гэтым даводзім да ведама ўсім нашым падпішчыкам, што газэта „Вольны Сьцяг" мае пастаянны аддзел „Юрыдычных парад".

Розныя запытаньні з апісаньнем справы просім прысылаць на адрэс Рэдакцыі (Wilno, Wileńska 12—6). Адказы і парады будуць друкавацца ў газэце дарма.

**Рэдакцыя.**

## Да нашых падпішчыкаў і чытачоў.

„**Вольны Сьцяг**“ адзіная ў Заходняй Беларусі беларуская газэта, якая стаіць у абароне інтарэсаў працоўнага сялянства і рабочых.

Кожны, хто жадае эканамічнага дабрабыту для сваей Бацькаўшчыны, каму дорага справа яе адраджэньня, хто шануе матчыну мову павінен чытаць „**Вольны Сьцяг**“, распаўсюджываць, выпісываць і дапамагаць, хто чым можа.

Сучасная ўсё ўзрастаючая дарагоўля стварае цяжкія варункі для выданьня газэты. Ад грашовага падтрыманьня праз беларускае грамадзянства залежыць рэгулярны выхад нашай часопісі.

Усе, дзеля сваей карысьці, падпісывайцеся на „**Вольны Сьцяг**“—усе гуртуйцеся пад наш сьцяг!

Рэгулярна ўнасіце падпіску і даплаты.

Асабліва заклікаем амэрыканскіх беларусаў і надалей надзеляць сваей дапамогай, каб не ўпаў **вольны сьцяг** на беспатольнай Бацькаўшчыне.

**Рэдакцыя і адміністрацыя.**

# Дапісы.

## Беларусы у Латвіі.

### Беларуская Пачатковая Школа ў Рызе.

З гэтае восені ў Рызе адчыняецца Беларуская Пачатковая Школа. Кіраўніком школы намячаецца гр. М. Дзямідаў. У школу ўжо запісалася каля 100 вучняў. Цікава ад‘значыць той факт, што большасьць гэтых вучняў зьяўляецца дзяцьмі працаўнікоў з фабрыкаў і заводаў.

### Беларускі Вучыцельскі Конгрэс.

У Дзьвінску 10, 11 і 12-га жніўня адбыўся Конгрэс вучыцялёў беларускіх пачатковых школ.

На Конгрэсе сабралося 75 чалавек беларускага вучыцельства, прыбыў Кіраўнік Беларускага Аддзелу і нават пабываў сам Міністар Прасьветы Латвіі, з некаторымі сваімі бліжэйшымі супрацоўнікамі аб‘язджаўшы Латгалію.

Старшынёй Конгрэсу быў выбраны Кіраўнік Люцынскай Беларускай Гімназіі—К. Езавітаў.

Конгрэс вынес пастановы: аб утварэньні Нацыянальнага Хаўрусу Беларускага вучыцельства ў Латвіі, аб выданьні пэдагогічнае часопісі, аб утварэньні Беларускага Культурнага Фонду ў Латвіі, шляхам штомесячных адлічэньняў ад пэнсіі, аб школьных летапісах у беларускіх школах, аб утварэньні Беларускага Этнаграфічнага Музэю ў Латвіі, аб зьбіраньні мясцовых асаблівасьцяў беларускае мовы і аб састаўленьні мясцовага слоўніка правінцыялізмаў.

У Камісію па апрацоўцы статуту Нацыянальнага Хаўрусу Беларускага вучыцельства ў Латвіі і выпуску пэдагогічнае часопісі выбраны: гр. С. П. Сахараў, К. В. Езавітаў, М. Дзямідаў, Г. Плыгаўка, Я. А. Шчорс.

## З Літвы.

**Міністэрства Беларускіх Справаў у Літве** просіць надсылаць яму рукапісы школьных падручнікаў, творы з закрэсу гісторыі, літэратуры, беларусазнаўства і інш.

Рукапісы, прынятыя Міністэрствам, будуць куплены у аўтараў і надрукаваны. Рукапісы ня прынятыя будуць вернуты аўтарам, на паказаны імі адрэс:

Адрэс; Kaunas, Mickievicio gatve, Gudu Ministerija, Lietuva.

# Усячына.

### Перад вайной і цяпер.

Які вялікі вызыск працоўных масаў істнуе ў сучаснай Польшчы паказваюць цыфры прыведзеныя ў „Rzeczpospolitej“, якія паказваюць, на колькі падаражэлі цяпер розныя тавары ў параўнаньні з прадваеннымі цэнамі. Па гэтых даных цана жалеза выносіць 110%, вугальля — 140%, мануфактуры 150—200% перадваенных цэнаў на гэтыя-ж тавары. А ці павялічылася ў гэткай прапорцыі заработная плата работнікаў і пэнсія служачых? Усім добра ведама, што заработная плата ня толькі не дасягае перадваеннай нормы, а штат ніжэй, у большасьці выпадкаў не дасягаючы нават 50% гэтай нормы. Для кожнага ясна, ў чыю кішаню плыве гэтая дадатковая вартасьць, і як нажываецца цяпер польская буржуазія коштам нэндзы працоўных гарадоў і вёсак.

### Амэрыканскія чугункі.

Усе Злучаныя Штаты ўкрыты густой сеткай рэльсаў і сетка гэтая з кожным годам гусьцее. Па апошніх вестках даўжыня чугунак у Злучаных Штатах перавышае 379.000 міль. На гэтых чугунках працуе 1.700.000 асоб, заработная плата якіх у год 2.700.000.000 даляраў.

На чугунках налічваецца ў дзесяць разоў болей служачых, як у амэрыканскай арміі.

Апрача вялікага ліку чугунак, яны яшчэ выдзяляюцца сваей шпаркасьцяй перавозкі і выгодай. Машына ў Амэрыцы штораз больш займае выдатнае палажэньне—Амэрыка багацее і разьвіваецца і, судзячы па яе апошняй палітыцы, стараецца адгарадзіцца ад старой і хворай Эўропы.

Новы сьвет хоча зрабіцца культурным цэнтрам чалавецтва.

## Пошасьць шаленства.

У апошнія часы страшэнна нашыраецца пошасьць шаленства ў Польшчы. Як сьцьверджае статыстыка шаленства ахапіла ў Польшчы 16 ваяводзтваў ці 126 паветаў. Падаем як аберагчыся і лячыцца ад гэтай хваробы.

1) Калі ў сабакі ці ката паяўляецца нешта падобнае на шаленства, дык трэба іх зачыніць ці навязаць сабаку на 10 дзён, а кота на 15. Калі за гэты час шаленства ня выявілася, дык іх можна пусьціць на свабоду, бо яны ўжо не захварэюць.

2) Час гэтай скрытай хваробы—г. ё. ад моманту заражэньне да першых аб‘яваў шаленства ёсьць гэткі:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| у сабакі | ад | 24 | гад. | да | 3 | месяц. |
| „ каня | „ | 2 | тыдняў | „ | 12 | тыдняў |
| „ рагат. скац. | „ | 3 | „ | „ | 20 | „ |
| „ сьвіней | „ | 2 | „ | „ | 8 | „ |
| „ чалавека | „ | 7 | дзён | „ | 7 | „ |

3) Выпаліваньне раны. Пасьля 15 мінут укусу шалёнай жывёлай можна спыніць пашырэньне хваробы праз выпаліваньне раны гарачым зялезам, квасам азотным, саляным квасам, цытрынавым сокам.

4. Прышчэпка. Найлепшым спосабам для пакусаных людзей ёсьць прышчэпка; сьмяротнасьць у такіх выпадках бывае дужа рэдка. Прышчэпка павінна быць зроблена не пазьней як пасьля дзесяці дзён пасьля заражэньня. Прышчэпка не патрэбна для тых, ў каго ўкусы былі праз вопратку і вопратка асталася не парванай.

## Наша пошта.

**Гр. М. Азерскі.** У Вільні выходзіць некалькі літоўскіх газэт. Зьвярніцеся па адрасе Wilno, St. Jańska 8 (24).

**Гр. М. Чапулёнку.** Карэспандэнцыя Ваша будзе надрукавана. З усімі парадамі і жалабамі зьвяртайцеся у бліжэйшы сэкрэтарыят Беларускага Пасольскага Клюбу ці непасрэдна да Беларускага Пасольскага Клюбу (Warszawa, Wiejska ul. Sejm).

**Гр. П. Мядзіолка.** Грошы адтрымалі, шчыра дзякуем. Сінтаксіс Тарашкевіча ня вышаў, і калі выйдзе, няведама. Просім напісаць свай адрэс, каб мы маглі даць адказ. Чакаем абяцанае карэспандэнцыі.

**Грамадзяніну М. С—ко.** Вашы вершы ня будуць друкавацца—слабыя і мова дрэнная.

**Гр. Н. Жальба.** Рукапісы Вашыя адтрымалі — дзякуем. Патрохі будзем друкаваць. У Вільні апрача „Вольнага Сьцягу“ і „Кгупісу“ больш нічога ня выходзіць.

***Пішыце да нас аб жыцьці—быцьці вёскі аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Вольнага Сьцягу“ будзе і яго супрацоўнікам.***

## Курс на грошы.

**Варшава 27 жніўня.**

(Афіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . . . . . | 248.000 |
| Нямецкая марка . . . . . | 0,04 |
| Фунты штэрл. . . . . . . | 1.130.000—1.131.000 |
| Франкі франц. . . . . . | 14.200 |
| Франкі бэльгійск. . . . . | 11.450—11.475 |
| 10 руб. золатам . . . . . | — |
| Польскі злоты . . . . . . | — |

## Сэкрэтарыяты Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня,** Віленская вул. 12, кв. 6.
2) **Ліда,** I I Слабодка 8.
3) **м. Глыбокае,** Дзісьненскага пав. вул. Сенкевіча 46.
4) **Жодзішкі,** Сьвянцянскага павету кс. Годлеускі.
5) **Наваградак,** Вялікі Рынак 14.
6) **Нясьвіж,** Альбянская 28.
7) **Столбцы,** Шпітальная 22.
8) **Горадна,** Мастовая 9.
9) **Бельск,** Замкавая вул. 3, кв, 1
10) **м. Саколка,** Горадзенская вул. 34.
11) **м. Кляшчэлі,** Бельскага павету.
12) **м. Крынкі,** Горадзен. павету, Горадзенская вул. 34.
13) **Пружаны,** Вуліца кс. Буткевіча, 16.
14) **Беласток,** Нова-Варшауская вул. № 83.

**Беларускі Пасольскі Клюб,** Варшава, Вейская вул. Сойм.







Рэдактар-Выдавец **Я. Лагіновіч.**

Друкарня **Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.